*Марыя КОБЕЦ*

# А РЫФМА ТЧЭЦЦА…



**Марыя Кобец нарадзілася 19 кастрычніка 1974 года ў вёсцы Валішча Пінскага раёна. Студэнтка Інстытута журналістыкі БДУ. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя У. Калесніка. Аўтар паэтычнага зборніка «Кроплі». Пачала спрабаваць сябе ў прозе. «Маладосць» надрукуе.**

* * *

Асенні сум. Дажджынак плач.
У одуме заціхлі дрэвы.
А я прашу цябе: «Прабач,
Трывожу часам без патрэбы».

Прабач, што я ў тваё акно
Гляджу перадсвітальнай зоркай.
За тое, што тваёй даўно
Я стала праміж будняў золкіх.

У думках, мроях, нібы здань,
Тваёй хаджу я ўслед дарогай
З адной мальбой: «Дазволь мне, дай
Ў нягодах быць перасцярогай!»

Дазволь пярсцёнкам на руцэ
Мне быць, каб чуць твае далоні,
Дажджом на валасах, шчацэ —
Употай лашчыць зноўку скроні.

Ну вось! Апраўдваюся! Ў чым?
За што ж прашу я прабачэння?
За тое, што імя ўначы
Тваё шапчу, хаця сумленне

Прасуе, мучыць брыдкі тлум
І спакушае адрачыся.
…Але ж трывожыць звыклы сум:
Апраўдвацца — не развучыцца.

Даволі! Хопіць. І прабач,
Калі твой свет я зноў трывожу.
Мой лёс — спектакль, а я — глядач,
Змяніць нішто яго не зможа.

* * *

…Забяры ў мяне глебу з-пад ног.
Чуеш? Не? Ну навошта мне крылы?!

Яны мкнуць да нябесных дарог,
На зямлі — хутка страчу ўжо сілы.

На раллі колас мой не расце.
Каласіцца, ды зерня ў ім мала.
І хоць сонца купае ў расе,
Каранёў жа не мае трывалых.

І хоць звонку высокі, страмкі
(А чаму? Проста цягнецца ў неба!),
Ды не хоча — характар такі —
Каб навечна прывязвала глеба.

…Забяры ў мяне глебу з-пад ног —
І я ў хвілю адчую бязважкасць.
Уздымуся ў блакітны разлог.
Узлячу. Мне не трэба адважнасць.

Можа стацца, ўпаду — як дасць Бог.
…А пакуль — я распраўлю ўміг крылы,
І пакіну знаёмы мурог,
І сягну ў вышыню небасхілу!

* * *

Кубак склеены.
І што?
Карыстаешся.
А варта?
Ды гарчыць з яго пітво:
Ці віно там,
Ці гарбата.
Рэжа вусны даўні скол,
Ды й няўстойлівым стаў посуд.
Сорам ставіць і на стол...
Не нап’ешся з кубка ўдосталь.
Не натоліш — разальеш.
Частаваць — не пачастуеш.
Часцей вусны ўкроў свае
Зрэжаш.
Звыкла?!
Ці ж не чуеш?!
Ці ж не бачыш тое, што
Ужо даўно навідавоку.
Ставіш ў шафу — «Мо й нішто?..» —
Бокам круціш вабным воку.
Усё хаваеш скол стары —
Звычка — справа не для ўпартых.
Кубак склеены. Бяры!
Пі пітво сваё!
А варта?

* * *

Удар са спіны. Злом крыла.
Нянавісць гадаўкай уецца.
Шчаслівай?!
Ці ж калі была?
А рыфма тчэцца, ўсё-ткі тчэцца.
…Ішла.
Без пэўнага святла.
Уцехі ў дробязным шукала.
«Ткачыхай» — зроду не была,
Ды рыфму ткала, рыфму ткала.

Хоць сцежка лёгкай не была,
І фарбаў пэўных не ставала,
Я з шэрых — свой узор пляла,
і ўсё-ткі ткала, шчыра ткала.

…Хай будзе так, як Бог спаслаў.
Хай крыўда болем адгукнецца.
Удар са спіны. Злом крыла.
Хай так. Так лепей рыфма тчэцца.

* * *

…Чамусьці не бярэ віно.
І не цяплеюць штосьці рукі.
Ну што такое?.. Дно відно!..
Ну хоць бы ўзяў хто на парукі?!

Ну хоць бы хто прынёс агню!
Расклаў на мармуру падлогі!
Крычу! Я ўжо ў званы званю!
Ад золі ўшчэнт знямелі ногі!

Кілішак з чырванню іскрыць.
Мядовы прысмак стаў згарчэлым.
Світанне хутка заімжыць!..
А я — у холадзе здзічэлым.

Раскрыю ў поцемкі акно!
Ў сутонне выпрастаю рукі!
Чамусьці не бярэ віно...
Але ж гучаць Арфея гукі...